## ТЭМА НУМАРУ

<u>Дзьмітры ФУРМАН</u>, **расейскі палітоляг:**

– Ёсьць такі сумны анэкдот пра тое, як кормяць зьвяроў у зьвярынцы. Там ёсьць такі выраз: зьясі-та ён зьясі, але ж хто яму дасьць? Я думаю, што пэрспэктыва стацца прэзыдэнтам аб'яднанай дзяржавы для Лукашэнкі вельмі малаверагодная. (Хоць, канешне, ён сам аб ёй неяк думае, марыць, і для яго такая пэрспэктыва рэальная). Аднак незьдзяйсьняльная яна найперш таму, што яе безумоўна трымае ў галаве як Ельцын, так і ўся кіруючая група Расеі, у тым ліку й расейская апазыцыя. І дапусьціць яго ў якасьці яшчэ аднаго канкурэнта, парушыць усе палітычныя пляны й камбінацыі, – на гэта ніхто ня пойдзе... Калі й адбудзецца нейкі перадзел уладных паўнамоцтваў, дык рэальная ўлада ўсё роўна застанецца ў абодвух прэзыдэнтаў. Бо не для таго Лукашэнка разганяў парлямэнт і Канстытуцыйны суд, а Ельцын не для таго прымаў прэзыдэнцкую Канстытуцыю. Карацей: не для таго яны ўстанавілі рэжымы асабістай улады каб потым адзін аднаму ў нечым саступіць... Палітычны сэнс гэтай акцыі ў тым, што сама ідэя досыць папулярная, таму яе неабходна неяк выкарыстоўваць. Да таго ж беларускі рэжым пасьпяхова дамагаецца падчас гэтага «аб'яднаўчага працэсу» шмат эканамічных ільготаў, а таксама палітычнай падтрымкі ад Расеі. А для Расеі, якая вельмі сканцэнтраваная на гэапалітыцы, вельмі важкім зьяўляецца тое, напрыклад, што паміж ёю ды NATO будзе знаходзіцца «наша тэрыторыя»... Усё гэта – гульня, якая па вялікім рахунку бясьпечная для абодвух прэзыдэнтаў, бо яны заўсёды спыняцца перад тым пунктам, калі зьявіцца небясьпека страціць уладу.

<u>Ільмар МУРТАЗАЕЎ</u>, **расейскі эканамічны аглядальнік:**

– Эканамічная дамова, што была падпісаная, на першы погляд выглядае сэнсацыяй: бакі дамовіліся аб уніфікацыі мытных пошлінаў, правілаў валютнага кантролю, падаткавага заканадаўства й г.д., словам, рэч ідзе аб фарміраваньні адзінай эканамічнай прасторы. Аўтары дакумэнта ганарліва канстатавалі ягонае падабенства з дамовай краінаў Эўрапэйскага Зьвязу аб увядзеньні EURO. Аднак просты аналіз паказвае, што ў Маскве была падпісаная звычайная бюракратычная паперка. Некаторыя пункты дамовы павінны былі быць выкананыя яшчэ два гады таму, калі быў аб'яўлены мытны саюз. Тым ня менш мытныя пошліны й правілы іхняга спагнаньня ў краінах дасюль розныя, свае. У выніку пасярод расейскай мытнай мяжы прабіта вялікая дыра, праз якую ідуць кантрабандныя тавары. Такая ж сытуацыя з дамовай аб уніфікацыі падаткавага заканадаўства... Каб зрабіць усё гэта аднолькавым, трэба зьмяніць структуру расходаў бюджэту, і адпаведна – структуру ўсёй эканомікі. Такім чынам нягледзячы на аптымістычныя заявы, расейскія чыноўнікі абсалютна не разумеюць, як аб'яднаць краіны з рознымі асновамі эканомікі. Таму пляны наконт стварэньня адзінага эмісыйнага цэнтру здаюцца зусім дрэнна ўзважанымі. Расейскі бюджэт сам сабе не дае рады. Незабясьпечаная эмісыя, што праводзіцца расейскім урадам, непазьбежна прывядзе да росту інфляцыі. Дадатковыя абавязацельствы Расеі не дазволяць ёй вырашыць уласныя эканамічныя праблемы... Наўрацьці хто ўспамяне пра гэты дакумэнт праз якія два гады. Затое абодва кіраўнікі вырашылі маленькія тактычныя задачы.

<u>Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ</u>, **старшыня АГП, былы кіраўнік Нацбанку Беларусі:**

– Беларускі рубель сёньня ня мае ніякага кошту. Па сутнасьці, грашовая сістэма, як і рынак валюты, разбураныя. Прывяду для прыкладу такія лічбы. Калі напачатку года даляр каштаваў 30.740 беларускіх рублёў, то зараз афіцыйны курс – 220.000 рублёў. Рынкачны курс даляра за 11 месяцаў абясьцэніўся ў 10 разоў. Поўнасьцю разбураная банкаўская сістэма краіны. Яе ўласны капітал зьменшыўся толькі за гэты год у 3 разы. Калі кажуць пра нейкае аб'яднаньне, то гэта можа азначаць адно: Расея, яе Цэнтрабанк возьме Беларусь на сваё ўтрыманьне... У нас неверагодная гіпэрінфляцыя (у кастрычніку – 21%, лістападзе – 25%), харчовая крыза. Нашы пакашчыкі нашмат горшыя нават у параўнаньні з далёка не ідэальнымі расейскімі.

<u>Віталь ЦІШЧАНКА</u>, **расейскі палітоляг:**

– У заяве віцэ-прэм'ера Маслюкова аб тым, што пры пераходзе Расеі й Беларусі да адзінай валюты будзе ўлічвацца практыка ўвядзеньня EURO, робіцца новы захад параўнаць расейска-беларускую інтэграцыю з сучаснай эўрапэйскай, надаць ёй выгляд быццам бы своечасовасьці й актуальнасьці. Між іншага, калі эўрапэйская мадэль ёсьць рэзультатам новых магчымасьцяў Эўропы, якія зьявіліся толькі напрыканцы стагодзьдзя (у гэтым сэнсе яна павернутая ў будучыню), то палітычнае напаўненьне саюза Расеі зь Беларусьсю цалкам належыць савецкаму прошламу гэтых дзяржаваў. Аб'яднаньне эўрапэйскіх краінаў магчымае ў выніку эканамічнага росквіту й стабільнасьці, бо менавіта эканамічныя рэаліі фармуюць новыя прынцыпы ўзаемадачыненьняў эўрапэйскай супольнасьці. «Новая славянская інтэграцыя» мае зусім процілеглы сэнс. У яе падмурку – старыя палітычныя ідэі, абапертыя на савецкую псыхалёгію «калектыўнага неўсьвядомленага». Левая сьвядомасьць ніколі не адмовіцца ад ідэяў усеагульнай роўнасьці й братэрства, уніфікацыі й разьмеркаваньня. Нездарма большасьць расейцаў гатовая падтрымаць інтэграцыю нават у выпадку калі гэта негатыўна адаб'ецца на іх дабрабыце. Новы макет лядашчага збудаваньня ўжо не зьвязаны зь ідэяй інтэрнацыяналізму. Наадварот: гэты саюз задуманы як новае «аб'яднаньне славянаў» дзеля абароны ад вонкавай пагрозы. Як я ўжо казаў, адрозненьне паміж эўрапэйскім і «славянскім» тыпамі інтэграцыі палягае ў адным: Эўропа будуе сваю ідэалёгію адштурхоўваючыся ад рэальнасьці, Расея й Беларусь намагаюцца пабудаваць рэальнасьць, абапіраючыся на ідэалёгію.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК***
***друку й пошты***
***(па матэрыялах перадачаў***
***Радыё Свабода).***



• *<u>Фота IREX/ProMedia.</u>*

***ЗДАЕЦЦА, ТАКІЯ СЦЭНЫ МЫ ЎСЕ БАЧЫМ З ТУГОЮ ПЯШЧОТНАЙ. КАЛІ ФАКТУРА МОЖА Ў ІХ БЫЦЬ ІНАКШАЙ, АДЗІН ЗЫХОД: КАЛІ ПАГАДЖАЕМСЯ САМАХОЦЬ ВЫКОНВАЦЬ РОЛЮ БЛАЗНОТЫ – НЯМА ЗЬДЗІЎЛЕНЬНЯ, ЧАМУ ТАДЫ НАПРАМАК ЖЫЦЬЦЯ – НА ЎСХОД...***



*Штогод з далёкае Амэрыцы дасылае на наш адрас віншаваньні свайму народу Мітрапаліт Ізяслаў. З задавальненьнем атрымалі мы й калядняе віншаваньне. Ня маючы магчымасьці надрукаваць яго ў поўным аб'ёме, падаем для праваслаўных вернікаў, што адзначаюць гэтымі днямі Раство Хрыстовае, асноўныя вытрымкі з пасланьня.*

### КАЛЯДНАЕ ВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ І З Я С Л А В А БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

### ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ, СЛАЎЦЕ!

З Хрыстовым Нараджэньнем вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да свае роднае Сьвятое Царквы імкняцеся, а яшчэ доступу да Яе ня маеце.

...Увайшоў ў дагодную Богу хрыстовую сям'ю праз ягоны хрост у Праваслаўную Веру звыш тысячы год назад і Беларускі Народ. Жыўлены й умацоўваны гэтай Верай наш Народ вякамі ішоў Божым шляхам, ствараючы вялікія духовыя багацьці ды ахоўваючы іх сьпярша ў межах раньніх княстваў, а пазьней свае магутнае дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага.

Пасьля стагодзьдзяў незалежнага дзяржаўнага існаваньня знайшліся, нажаль, вонкавыя й нутраныя сілы, што адабралі ў нашага Народу спачатку Праваслаўную Веру, а за ёй і свабоду.

Пазьней уладу над ім узялі адкрытыя слугі цемры ды адпалохалі ад усялякае веры ў Бога, або ў нешта вышэйшае за патрэбы чэрава.

Сёньня ён жыве гаротным і небясьпечным жыцьцём у атрутным абсягу засталага па савецкай імпэрыі гнільля, ды, замест навукі як ісьці да лепшае будучыні, чуе адно зманы хвальшывых прапаведнікаў варочацца ў жахлівую мінуласьць.

...Мае Любыя! У сьвятле праўды, што яе весьціць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, Вы пабачылі Мэту, дзеля якое зыйшоў на зямлю й навучаў людзей годна жыць наш Збавец Ісус Хрыстос.

Гэтая Мэта ня ў жыцьці паводле загадаў памыльных людзей, што часова валодаюць намі, а ў послуху звышнім наказам любіць Бога больш за ўсё ды кожнага бліжняга, як самога сябе.

Ідзеце-ж, пачаўшы йзь Сьвятога Дня Хрыстовага Нараджэньня, як Ягоныя вучні да свайго Народу ды навучайце гэты Народ пакланяцца Богу, а не часовым уладарам, любіць Край і мову, ды цаніць права на свабоду, якімі Ён нас абдарыў.

Ідзеце й наказвайце адбудоўваць сваю родную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, Якая не вядзе ў няволю, а настаўляе хваліць Бога той мовай, якую Ён нам даў і дзякаваць Яму за ўсе Ягоныя багатыя дары, ды памнажаць іх.

Няхай-жа за гэты ваш дар працы на Ягонай ніве народжаны з Найчыстае Дзеўны наш Збавец сьцеражэ Вас і прыяе Вам цяпер, ды ўвесь час.

***+ Мітрапаліт Ізяслаў***
***Першагерарх***
***Беларускае Аўтакефальнае***
***Праваслаўнае Царквы.***

<u>РЭПЛІКА ТМ</u>

## <u>*Чароўная сіла мастацтва?*</u>

*Ня ў нашых правілах канфліктаваць з калегамі, якіх бы поглядаў не трымаліся тыя ці іншыя выданьні. Таму цытата з "Магілёўскай праўды", на якую мы спасылаемся, ня мае дачыненьня да самой газэты. Нас зацікавіла выказанае на яе старонках меркаваньне намесьніка старшыні аблвыканкама Яўгена Касьцюковіча. Вось гэты фрагмэнт інтэрвію:*

Пытаньне: Аднак зараз такое адчуваньне, быццам увесь народ стаіць у чэргах па масла, яйкі й цукар і яму няма справы да выставаў, канцэртаў і плэнэраў...

Адказ: Я ня думаю, што з-за цяжкасьцяў з прадуктамі людзі згубілі цікаўнасьць да культуры. Вось толькі што ў нас праходзілі Дні культуры Югаславіі, і вы б бачылі, якімі перапоўненымі былі залі... І ў той момант, я думаю, людзі думалі й адчувалі сябе зусім па-іншаму.

*Сапраўды існуе яна, чароўная сіла мастацтва. Узьдзейнічае, праўда, строга індывідуальна, нават інтымна – як Вера, напрыклад. Аднак жа дзяржаўнаму чалавеку, які на пасадзе (тым больш ня творцу, а чыноўніку ад мастацтва, хаця й пры высокім званьні Заслужанага дзеяча культуры рэспублікі) спасылацца на яе падчас крызыснай сытуацыі, выкліканай дылетанцкім кіраваньнем краінай, на нашую думку, нядобрасумленна й нават цынічна. Куды больш «часьней» не запрашаць на апошнія бюджэтныя (гэта значыць народныя) грошы сымфанічныя аркестры бог ведама адкуль, а праводзіць «традыцыйныя» й нібыта сьвяточныя кірмашы з гарэлкай і шашлыкамі, на якіх гэтага дабра ўдосталь. А за ўсім астатнім трэба пазмагацца ў чэргах, абменьваючы прыстойнасьць на латок яек. Вось тут усё ясна й шчыра, ды й «мастацтва» з радыёкалякольчыкаў гучыць, як правіла, адпаведнае – як два апошніх дні года запар гучала па-над горадам прасьценькае й вясёленькае: «Цілі-цілі... Тралі-валі... Эта мы не прахадзілі, эта нам не задавалі»...*

*На жаль, праходзілі гэта й працягваем праходзіць, а менавіта – здаваць іспыт па зьнішчэньню ў самых сабе годнасьці й самапавагі.*

***Рэдакцыйны***
***АГЛЯДАЛЬНІК***
***пошты й друку***

## <u>*Неразумныя людзі?*</u>

<u>Касьцюковічы</u>. Вёскі Дзеражня і Ветухна знаходзяцца ў зоне абавязковага адсяленьня. Але 10 чалавек сустрэлі тут свой чарговы Новы год. Усе гэтыя людзі – старыя, маюць па 80 і больш гадоў. Яны адмовіліся з'язджаць з роднага кута й усе гады пасьля чарнобыльскае аварыі жывуць там. Яны працуюць на сваіх прысядзібных гародах, ходзяць у лес, трымаюць скаціну. Двойчы ў тыдзень ім прывозяць прадукты харчаваньня й пэрыядычна прыязджаюць медыкі. Жыхары двух гэтых вёсак – гэта малая частка з 365 чалавек, што засталіся ў моцна забруджанай радыяцыяй зоне. Як паведаміў загадчык «чарнобыльскага» аддзелу аблвыканкаму Анатоль Загорскі, усім прапаноўваліся кватэры ў райцэнтрах, у іншых вёсках. Але людзі не захацелі пакідаць нажытае гадамі.

Самае жахлівае, што разам з дарослымі жывуць дзеці. Іх 21 чалавек, ад 6 да 17 гадоў. Іх не адпускаюць бацькі. Практычна ва ўсіх захворваньні розных ступеняў цяжкасьці.

*І.З.*

